

*Жыве Беларусь!*

# БЕЛАРУС

**Address:** P.O. Box 3225
Farmingdale, NY 11735

**BIELARUS / Belarusan newspaper in Free World.**
Published by the Belarusan American Ass'n Inc.

**№ 482 Сакавік 2003 г.**
Год выданьня 53

# РАДА
## БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ
### ПРЭЗЫДЫЮМ



### АДКРЫТЫ ЛІСТ ДА БЕЛАРУСКАГА НАРОДУ

Люты 2003-га году

Дарагія мае Браты й Сёстры Беларусы!

25-га Сакавіка 1918-га году Рада Беларускае Народнае Рэспублікі абвесьціла Беларусь незалежнаю дэмакратычнаю дзяржаваю. Народ наш ужо тады разумеў, што толькі вольным ад чужой акупацыі ён можа асягнуць мэту кожнага народу - быць гаспадаром у сваім доме.

Каб мы тады мелі магчымасьць абараніць нашую новаздабытую незалежнасьць, то наш край займаў-бы цяпер пачэснае месца між іншымі вольнымі народамі сьвету. Мы жылі-б нармальна, не баючыся гаварыць тое, што думаем, ды галасаваць за тых кандыдатаў, якія гатовыя найбольш зрабіць для нашага дабра і для дабра нашай Бацькаўшчыны. Нашаю мэтаю ня было-б выехаць за граніцу ў пошуках волі ды кавалка хлеба, а адбудаваць наш край, так як гэта робяць нашыя суседзі. Наш народ працавіты, таленавіты, разумны. Няма той мэты, якой мы не змаглі-б асягнуць.

Але выйшла яно інакш. Нас акупавала найбольш зьверская ў гісторыі чалавецтва імпэрыя. Дзякуючы "братэрскай Расеі" за 20-е стагодзьдзе Беларусь страціла больш за палову свайго насельніцтва. Нас вывозілі, расстрэльвалі, катавалі. Адбіралі ад нас нашую маёмасьць, нашую гістарычную памяць, нашую мову. А мы глядзелі на ўсё гэта і чакалі, што нешта зьменіцца бяз нашага ўдзелу.

Былі часы, калі гэта было зразумела. Народ стараўся неяк выжыць. Цяпер-жа сьвет нас не разумее. Не разумее народу, які ня хоча ведаць, дзе праўда, а дзе прапаганда, дзе справядлівасьць ды людзкая годнасьць, а дзе няволя ды генацыд. Сьвет не разумее, як наш народ мог двойчы дапусьціць да ўлады Лукашэнку, як ён можа дазваляць амонаўцам зьдзекавацца над жанчынамі, як ён можа гадзіцца з паўторнымі фальсыфікацыямі выбараў. Не разумее, чаму наш народ ня выйшаў сотнямі тысячаў, каб абараніць сваю незалежнасьць, калі Пуцін заявіў, што ён хоча зрабіць з нас расейскую губэнію.

Колькі часу яшчэ розныя прайдзісьветы будуць над намі зьдзекавацца, трактаваць нас як тавар, якім можна гандляваць у імя чужых інтарэсаў?

Расейскі фактар адыгрывае безумоўна вялікую ролю. Масква ніяк ня можа пагадзіцца з тым, што на яе дарозе ў Калінінград ды ў Эўропу знаходзіцца незалежная дзяржава, зь якою трэба лічыцца. Яна ўсё будзе рабіць, каб нас неяк уключыць у сваю імпэрыю. Але Масква нічога ня зможа зрабіць супраць нас, калі мы гэтага не дапусьцім. Час прачнуцца! Час абвесьціць сьвету, што мы хочам быць вольнымі й незалежнымі, што мы больш не дазволім нікому нас прадаваць! Калі мы гэтага цяпер ня зробім, калі дазволім Маскве нас "інтэграваць", тады назаўсёды згінем як нацыя, як народ.

Першым крокам нашага адказу Пуціну могуць стаць шэсьці, якія адбудуцца ў Менску і ў іншых гарадох Беларусі з нагоды нашага сапраўднага нацыянальнага сьвята, 25-га Сакавіка. У гэты дзень увесь беларускі народ мусіць сказаць сьвету, што яго воля, яконая незалежнасьць, ягоная маёмасьць, ягоныя грошы, ягоная тэрыторыя не падлягаюць ніякому шантажу, ніякому гандлю.

Толькі ў сваёй уласнай незалежнай краіне мы абаронім тыя чалавечыя правы, якімі карыстаецца ўвесь цывілізаваны сьвет. Толькі калі будзем гаспадарамі яе, будзем жыць так, як жывуць людзі ўва ўсіх нармальных краінах сьвету. Але гэта ня станецца бяз нас, бяз нашага ўдзелу! Прыпомнім яшчэ раз словы нашага прарока Янкі Купалы:

Паўстань народ! Для будучыні шчасьце
Ты строй, каб пут ня строіў больш сусед,
Ня дайся ў гэты грозны час прапасьці -
Прапашчых не пацешыць шчасьцем сьвет.

Жыве Беларусь!

***Івонка СУРВІЛЛА***
***Старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі***




# СУСТРЭЧА Ў ДЗЯРЖАЎНЫМ ДЭПАРТАМЭНЦЕ ЗША

У Дзяржэпартамэнце ЗША ў Вашынгтоне 29-га студзеня адбылася сустрэча прадстаўнікоў беларускай грамады Амэрыкі з кіраўніцтвам беларускага аддзелу Дзяржэпартамэнту. Сярод прысутных былі спн.сп. Алла Орса-Романо, Вітаўт Кіпель, Вячка Станкевіч, Сямён Шарэцкі, Васіль Мельяновіч, Алеся Сёмуха, Зьміцер Левіт, Віталь Зайка. Напачатку сустрэчы загадчык беларускага аддзелу Майкл Уягара сказаў колькі словаў пра сябе і сваю працу перад прызначэньнем у беларускі аддзел. Ён выклаў сваё бачаньне сытуацыі ў Беларусі й вакол яе, а таксама асноўныя палажэньні палітыкі ўраду ЗША ў адносінах да сёнешняга рэжыму Рэспублікі Беларусь.

Сярод тактычных мэтадаў ён узгадаў супрацоўніцтва зь недзяржаўнымі арганізацыямі дзеля разьвіцьця грамадзянскай супольнасьці, дзеяньні сумесна з Эўразьвязам і Расеяй дзеля ўплыву на рэжым Лукашэнкі з мэтаю дэмакратызацыі й паляпшэньня становішча правоў чалавека. Ня глездзячы на ізаляцыю, што сталася вынікам дзейнасьці рэжыму ў Менску, ЗША па магчымасьці падтрымліваюць кантакты з афіцыйным Менскам, прыкладам чаму ёсьць надаўнія пагадненьні аб тэкстыльных вырабах і аб нацыстоўскіх злачынцах. Далейшы ўзровень супрацоўніцтва залежыць ад выкананьня беларускімі ўладамі шэрагу ўмоваў, у тым ліку дэмакратызацыі й палітычных рэформаў.



*На здымку: удзельнікі сустрэчы А. Орса-Романо, В. Станкевіч, А. Сёмуха, М. Уягара, С. Шарэцкі, З. Левіт, В. Мельяновіч, В. Кіпель.*

Сп. Вітаўт Кіпель заявіў, што беларусы Амэрыкі занепакоеныя падзеямі ў Беларусі й сталаю пагрозаю яе незалежнасьці, якую нясе палітыка Лукашэнкі, і дзеяньнямі расейскіх уладаў, скіраванымі на інкарпарацыю Беларусі ў склад Расеі. Для лепшага разуменьня сытуацыі ўрад ЗША, мусіць мець шчыльнейшыя кантакты з прадстаўнікамі беларускіх незалежніцкіх сілаў і дыяспары ў ЗША. Кантакты з дыяспараю мусяць быць больш рэгулярнымі.

Сп. Віталь Зайка коратка распавёў пра дзейнасьць Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, ягоную пазыцыю адносна сытуацыі ў Беларусі. Ён адзначыў, што амэрыканскія беларусы занепакоеныя спробамі Эўразьвязу і ЗША прыцягнуць Расею да вырашэньня праблемаў Беларусі. Палітыка Расеі ёсьць прычынаю гэтых праблемаў, і пускаць Расею вырашаць іх - тое самае, што пускаць лісу даглядаць курэй. Усім ведама, што бяз згоды Крамля Лукашэнка нядоўга пратрымаўся-б пры ўладзе. Аднак Расея разумее, што ніхто з наступных беларускіх лідараў ня будзе гандляваць незалежнасьцю Беларусі, як

*Заканчэньне на бач. 2*

# СЭМІНАР У ВАШЫНГТОНЕ

У Вашынгтоне 30-га студзеня адбыўся сэмінар, прысьвечаны магчымасьцям уплыву Злучаных Штатаў на дэмакратычныя зьмены ў Беларусі, падрыхтаваны Нацыянальнай Фундацыяй у Падтрымку Дэмакратыі (НФПД). Прагучаў даклад сп. Аркадзя Чарапанскага, стыпэндыята НФПД, "Вяртаньне Беларусі на дэмакратычны шлях: чым ЗША могуць дапамагчы". Затым адбылося абмеркаваньне, у якім прынялі ўдзел прадстаўнікі беларускай грамады ЗША спн.сп. Алла Орса-Романо, Вячка Станкевіч, Віталь Зайка, Богуш Станкевіч. Прысутнічаў першы амбасадар ЗША ў Беларусі сп. Дэвід Сўорц, прадстаўнікі Дзяржэдэпартамэнту, Гэльсінскай камісыі пры Кангрэсе ЗША, Інстытуту Адкрытага Грамадзтва, НФПД ды інш.

Напачатку свайго дакладу сп. А. Чарапанскі акрэсьліў тэрміны ў ангельскай мове для назову "Беларусь, беларускі". Словамі "Belarus, Belarusian" у дакладзе вызначаецца краіна і рэаліі часоў старабеларускай дзяржавы - Вялікага Княства Літоўскага да 1569-га году, а таксама незалежнай Беларусі (БНР) ў 1918-м годзе і Рэспубліцы Беларусь пасьля жніўня 1991-га году. "Belorussia, Belorussian" вызначаюць беларускія землі ў часы польскага, расейскага і савецкага панаваньня. Сп. Чарапанскі адзначыў, што расейцы заўсёды імкнуцца сьцерці адрозьненьне паміж "беларускім" і "расейскім", і лепей адразу мець добра акрэсьленую тэрміналёгію.

Далей сп. Чарапанскі адзначыў: "Цяпер стала модна называць Лукашэнку апошнім дыктатарам Эўропы. І сапраўды, гэта найбольш агідны лідэр у Эўропе. Лукашэнкаў татальны кантроль грамадзтва выклікае асацыяцыі з сталінскімі часамі. Апошні з "Юрасік-парку" таталітарных дыктатараў, Лукашэнка, мае за сабою дастаткова дзеяньняў, за якія ён можа быць прыцягнуты да крымінальнай адказнасьці, і найбольш брыдкім з гэтых дзеяньняў ёсьць стварэньне "эскадронаў сьмерці" для зьнішчэньня палітычных апанэнтаў."

Далей прамоўца даў кароткі агляд гісторыі Беларусі й абставіны прыходу да ўлады Лукашэнкі, які адбыўся дзякуючы цяжкасьцям пераходнага перыяду, расчараваньню грамадзтва ў тагачасным кіраўніцтве і расейскаму ўплыву на палітыку і ўсе бакі жыцьця Беларусі ды шэрагу іншых фактараў. Сп. Чарапанскі даў аналіз дзеяньняў апазыцыі за 7 гадоў панаваньня Лукашэнкі, адзначыў жорсткія ўмовы перасьледу, у якіх мусіла змагацца апазыцыя, выбіраючы не заўсёды слушныя шляхі й мэтады дзеяньняў. Была дадзеная ацэнка сёньняшняй сытуацыі ў Беларусі й імкненьню кіраўніцтва Расеі на чале з У. Пуціным правесьці гульню ў "саюзную дзяржаву", у выніку якой Беларусь была-б інкарпараваная ў Расею, страціўшы незалежнасьць. Былі дадзеныя прычыны таго, чаму дэмакратыя не пусьціла ў Беларусі каранёў. Таксама, на думку сп. Чарапанскага, дэбаты 1991-1994 гадоў пра міжнародную арыентацыю краіны, нацыянальную ідэю выклікалі падзел грамадзтва, адцягнулі ўвагу ад дзяржаўнага будаваньня і кансалідацыі.



*В. Зайка і А. Чарапанскі*

Выступоўца накрэсьліў магчымыя сцэнары развіцьця падзеяў у Беларусі й дзеяньняў Лукашэнкі. Найбольш небясьпечным зьяўляецца тое, што лукашэнкавы спробы скарыстаць гэтак званы "саюзны" фактар могуць рэальна прывесьці да ўтварэньня канфэдэратыўнай дзяржавы, у якой зьнікне нават успамін пра Беларусь.

Сп. Чарапанскі прааналізаваў асноўныя зьнешнія фактары, што ўплываюць і надалей будуць уплываць на разгортваньне падзеяў у Беларусі: эўрапэйскі, расейскі, амэрыканскі. Эўропа мае непасьлядоўную й недастаткова актыўную палітыку ў дачыненьні да рэжыму ў Беларусі. Гэта адразу паказаў скандал з мястэчкам Драздзы пад Менскам, дзе мясьціліся дыпляматычныя місыі, адкуль Лукашэнка з парушэньнем усіх магчымых міжнародных нормаў выдаліў дыпляматычны пэрсанал і захапіў будынкі для ўласных патрэбаў. Тады толькі ЗША настаялі на выплаце кампэнсацыяў, а рэшта краінаў зрабіла выгляд, што нічога ня здарылася. Падзеі з місыяй АБСЭ паказваюць, што спробы Эўразьвязу залагодзіць Лукашэнку толькі натхняюць яго на далейшыя дзёрзкія і падступныя дзеяньні. Ён па-майстэрску выкарыстоўвае кожны кампраміс, кожную недакладнасьць, памылковы крок або няўпэўненасьць суперніка.

Расейскі фактар зьяўляецца вельмі важкім, але ня трэба перабольшваць так званае гістарычнае прыцягненьне беларусаў да Расеі. Гісторыя іх адносінаў - гэта гісторыя барацьбы, рэпрэсіяў, асыміляцыі. Трэба памятаць, што ў выніку дзеяньняў маскоўскага войска ў 17-м стагодзьдзі была вынішчаная амаль палова насельніцтва тагачаснай Беларусі, а беларускія жаўнеры ў складзе войска Вялікага Княства Літоўскага два разы захоплівалі Маскву.

Сёньня Расея прачухалася ад шоку 1990-х гадоў, і гэта сёньня не дэмакратыя. Расея імкнецца "толькі браць", як заявіў Пуцін, што значыць - яна вяртаецца да старых імпэрскіх шляхоў. І гэтая палітыка нідзе так навідавоку, як у дачыненьні да Беларусі. Як заявіў адзін з аглядальнікаў афіцыйнай "Расейскай Газэты": "Калі ў 2005-м годзе ў Беларусі будзе ўведзеная "адзіная" валюта Расеі, гэта значыць, што Вялікая Расея адраджаецца!" Паглынаньне Беларусі, першай заплянаванай да пакарэньня дзяржавы, пагражае будучымі этнічнымі войнамі, нясе небясьпеку ўсім былым савецкім краінам, Эўропе і сьвету. Большасьць расейскага грамадзтва, расейскі істэблішмэнт супраць палагоджаньня з Захадам, і Пуцін мусіць круціцца між узаемна варожых фактараў у сваёй палітыцы. Ягонае становішча нагадвае становішча М. Гарбачова ў канцы 1980-х гадоў. І тут Беларусь ёсьць сур'ёзным выпрабаваньнем, лякмусаваю паперкаю на магчымасьць збудаваньня дэмакратыі ў Расеі, а пакуль усё гаворыць не на карысьць такога збудаваньня.

Амэрыканскі фактар, якому ўласна і прысьвечаны ўвесь даклад, можа і павінен адыграць найбольш значную пазытыўную ролю ў разьвіцьці Беларусі. Толькі ЗША найбольш пасьлядоўна і без кампрамісаў адстойваюць ва ўсім сьвеце ідэалы дэмакратыі, правы чалавека. ЗША - гэта адзіная краіна, здольная аказаць ціск і на Лукашэнку, і на Расею. ЗША маюць досьвед добрых адносінаў з Беларусьсю, калі С. Шушкевіч стаў адным зь першых пост-савецкіх кіраўнікоў, што наведалі ЗША, а Беларусь - адною зь першых пост-савецкіх краінаў, якую наведаў амэрыканскі прэзыдэнт. Аднак з Лукашэнкам усё памянялася. У верасьні 1995-

*Заканчэньне на бач. 5*

## СУСТРЭЧА Ў ДЗЯРЖДЭПАРТАМЭНЦЕ

*Заканчэньне. Пачатак на бач. 1*

гэта робіць Лукашэнка, і таму з ягонай дапамогаю яна сёньня імкнецца захапіць Беларусь, напусьціўшы туману пра "саюзную дзяржаву" ды "інтэграцыю". Сп. Зайка адзначыў, што пытаньні афіцыйнага ўжытку беларускай мовы, беларускамоўная адукацыя, друк, тэле- і радыёстанцыі, разьвіцьцё беларускай культуры ды іншыя нацыянальныя правы беларускага народу, патаптаныя рэжымам, ёсьць неад'емнаю часткаю правоў чалавека і дэмакратызацыі краіны. Таму яны мусяць атрымаць належную ўвагу амэрыканскіх уладаў, якія імкнуцца дапамагчы Беларусі стаць на дэмакратычны шлях разьвіцьця. Неабгрунтаванае адкіданьне праблемаў нацыянальнага разьвіцьця беларусаў як другарадных або "нацыяналістычных" ніяк не будзе спрыяць дэмакратызацыі й стабільнасьці Беларусі.

Спн. Алла Орса-Романо адзначыла, што ўжываньне па-ангельску састарэлых тэрмінаў для назваў "Беларусь; беларускі", як: "Byelorussia/Belorussia; Byelorussian/Belorussian", ёсьць няправільным і адлюстроўвае савецкія рэаліі. Слушным было-б афіцыйна прынятае ў ААН ужываньне словаў "Belarus; Belarusian" або "Belarusan". Спн. Орса-Романо падняла таксаму праблему матэрыяльнай дапамогі Беларусі, якая не заўсёды даходзіць да тых, хто мог-бы яе найбольш эфэктыўна скарыстаць. Яна закранула пытаньне адбору кандыдатаў на праграмы абмену ды іншыя гуманітарныя акцыі.

Сп. Вячка Станкевіч выказаў сваё бачаньне вырашэньня праблемаў, зьвязаных зь Беларусьсю, і прыцягнуў увагу да небясьпекі балятаваньня Лукашэнкі на забароненых канстытуцыяй трэці тэрмін прэзыдэнцтва праз правядзеньне рэфэрэндуму. ЗША мусяць адразу і жорстка выказаць сваю пазыцыю на гэты конт.

Сп. Сямён Шарэцкі адзначыў неабходнасьць кантактаў беларускай дыяспары з амэрыканскімі ўладамі, а таксама падкрэсьліў, што ў Беларусі фактычна няма законна абранага органа ўлады, таму Вярхоўны Савет 13-га скліканьня юрыдычна надалей застаецца легітымным парлямэнтам. А ўсе перамовы з Лукашэнкам - гэта перамовы з узурпатарам улады. Кантакты рэжыму Лукашэнкі з Іракам, Іранам, Лібіяй ёсьць небясьпечнымі для ўсяго сьвету. Наагул, Беларусь ператварылася ў лябараторыю аўтарытарызму, і шмат якія анты-дэмакратычныя "вынаходніцтвы" Лукашэнкі (вертыкаль улады, маніпуляваньне медыямі, рэфэрэндумы "на замову" ды інш.) пераймаюцца кіруючымі коламі Расеі ды іншых пост-савецкіх краінаў.

Спн. Алеся Сёмуха закранула пытаньні каардынацыі дзеяньняў і кансультацыяў беларускіх арганізацыяў зь дзяржаўнымі ўстановамі ЗША, візавага забесьпячэньня наведвальнікаў зь Беларусі.

Сп. Васіль Мельяновіч адзначыў небясьпеку скарыстаньня рэжымам Лукашэнкі Расейскай праваслаўнай царквы (РПЦ) ў сваіх палітычных мэтах, а таксама імкненьне РПЦ умешвацца ў сьвецкія, у тым ліку палітычныя, пытаньні, што яшчэ болей ускладняе сытуацыю і стварае рэлігійную напружанасьць у краіне.

Сп. Зьміцер Левіт прыцягнуў увагу да сувязі сёньняшніх праблемаў з падзеямі мінулага, аб неабходнасьці шырэйшага ўспрыняцьця сытуацыі ў Беларусі ў гістарычным кантэксьце. Ён прадэманстраваў факсімільнае выданьне Статуту старабеларускай дзяржавы 1588-га году і гістарычныя мапы Беларусі.

Сп. Уягара пракамэнтаваў прапановы й выказваньні, пачутыя на сустрэчы, і падзякаваў за магчымасьць абмену думкамі з прадстаўнічаю дэлегацыяй беларускай грамады Амэрыкі. Ён выказаў перакананасьць у неабходнасьці разьвіцьця кантактаў і заявіў аб жаданьні сустрэцца з беларускаю грамадою у Нью Ёрку ў сакавіку месяцы. Сустрэча ў Дзяржэдэпартамэнце прайшла ў надзвычай канструктыўнай і дабразычлівай атмасфэры.

*Віталь ЗАЙКА*

# ДАПАМОГА СКАРАЧАЕЦЦА

За апошнія два гады замежныя прыярытэты ЗША сталі больш прагматычныя. Відавочна, што ў фокусе замежнай дапамогі - Блізкі Ўсход, Сярэдняя Азія і Лацінская Амэрыка. Паводле нядаўна прапанаванага на разгляд Кангрэсу ЗША бюджэту на наступны год, прадугледжваецца выдзяленьне 28,5 мільярдаў даляраў на замежную дапамогу.

Новы бюджэт акрэсьлівае асноўныя накірункі замежнай дапамогі ЗША. Перш за ўсё гэта выдаткі накіраваныя на змаганьне з тэрарызмам. Амаль 5 мільярдаў даляраў плянуецца выдзеліць на праграмы бясьпекі тым краінам, якія ўжо далучыліся да ЗША ў барацьбе з тэрарызмам. Тым часам прамая дапамога Беларусі зьмяншаецца на амаль 15% і будзе роўная $8 мільёнам даляраў. Для параўнаньня, Малдова атрымае ў 3 разы болей сродкаў за Беларусь, а Украіна - амаль 12 разоў болей - $94 мільёны даляраў, хоць фізычная сума дапамогі зьменшылася і для гэтых краінаў. Дапамога Беларусі (калі ня лічыць Туркмэністан) будзе самая малая ў параўнаньні з усімі незалежнымі краінамі былога Савецкага Саюзу.

Сярод замежных праграмаў бюджэту ёсьць адна цікавая новая праграма заахвочваньня: Millennium Challenge Account. Гэта праграма партнэрства з краінамі, якія сталі на шлях рэформ. Але паводле кіраўніка беларускага аддзелу ў Дзяржэдэпартамэнце ЗША Майкла Уэгары, Беларусь тэарэтычна магла-б атрымліваць дапамогу па гэтай праграме, але наўрад ці пройдзе кваліфікацыйны стандарт. Дарэчы, пакуль невядомыя крытэрыі адбору краінаў, але вызначальнымі фактарамі будуць наяўнасьць дэмакратычных і эканамічных рэформаў.

*Алеся СЁМУХА*

# Беларусь за месяц

### ХТО ПАЖАРТАВАЎ?

5-га лютага ў штаб-кватэры БНФ шукалі бомбу. Нейкі злаўмысьнік а 10.53 патэлефанаваў у міліцыю і паведаміў аб замініраваньні офісу. Міліцыянты разам з сабакамі з гадзіну беспасьпяхова шукалі бомбу. У БНФ зазначаюць, што ананімны званок мог зыходзіць ад канкурэнтаў-"ворагаў", бо набліжаецца дзень выбараў, і трэба інтэнсыўна працаваць. Таму дзень быў змарнаваны. А можа хто і пахуліганіў.

### УСЕ НА ВЫБАРЫ!

Партыя БНФ выступіла з адмысловаю заяваю, дзе заклікала сусьветную супольнасьць не прызнаваць заплянаваныя на 2-га сакавіка выбары ў мясцовыя саветы. Падставаю сталі шматлікія парушэньні ў ходзе рэгістрацыі кандыдатаў у дэпутаты. Так, партыя БНФ высунула 201 партыйца, зь іх зарэгістравалі толькі 112 чалавек. 40 кандыдатам адмовілі, 49 зьнялі свае кандыдатуры пад пагрозаю звальненьня з працы. Падставы для адмовы ў рэгістрацыі былі самыя розныя - ці няздайна запоўненыя падпісныя лісты, ці "маўчаньне" пра грашовыя ганарары. Натуральна, прадстаўнікі ўлады такіх дробных заўвагаў ня мелі, ды й няма ў іх "левых ганарараў".

Усяго на выбарах у мясцовыя саветы будуць змагацца крыху больш за 25 810 чалавек, гэта ў сярэднім каля 1,1 чалавека на месца. У многіх акругах выбары будуць безальтэрнатыўныя. А найбольшае суперніцтва будзе ў Менскі гарсавет, дзе за 55 месцаў будзе змагацца ажно 165 кандыдатаў. У некаторых акругах сталіцы дэмакраты будуць змагацца адзін з адным.

### МІНЮСТ ШКАДУЕ ТБМ

Пры канцы 2002-га году Міністэрства юстыцыі вынесла папярэджаньне ТБМ за тое, што актывісты арганізацыі ў верасьні ўсталявалі на Лідчыне, ля вёскі Беліца, крыж у гонар лідзкай шляхты, што палегла тут у баёх супраць расейскіх акупантаў у XVII-м стагодзьдзі.

Нягледзячы на дазвол мясцовага сельсавета, Мінюст выставіў ТБМ прэтэнзіі, палічыўшы крыж культавым збудаваньнем, і абвінаваціўшы мясцовую суполку ТБМ ў арганізацыі несанкцыянаванага мітынгу. Апрача таго, Мінюст заявіў аб адсутнасьці поўнай афіцыйнай назвы аб'еднаньня (ГА "Таварыства беларускай мовы" імя Францішка Скарыны) у рэкламцы ў мэтро (было напісана "Таварыства беларускай мовы"). ТБМ падаў у студзені скаргу ў Вярхоўны суд, але яе не задаволілі.

А ў лютым Мінюст нечакана адмяніў папярэджаньне. Злыя языкі кажуць, што гэта адбылося пасьля сустрэчы Алега Трусава з кіраўніком Адміністрацыі прэзыдэнта Ўралам Латыпавым у справе адкрыцьця Нацыянальнага ўнівэрсытэту, калі вышэйшыя чыноўнікі моцна зацікавіліся беларускаю справаю.

### ТБМ ДЗЯКУЕ

Кіраўніцтва ТБМ выказала падзяку Вярхоўнаму суду і Мінюсту за вядзеньне справаводства ў судзе па-беларуску (справа пра лідзкі крыж, апісаная ў папярэдняй зацемцы). У лістах на імя старшыні Вярхоўнага суду Валянціна Сукалы й міністра юстыцыі Віктара Галаванава зазначалася, што, ня гледзячы на адмоўнае рашэньне справы, суд быў вельмі незвычайным, бо "ўсе прысутныя займелі добрую нагоду пачуць сапраўдную беларускую мову", на якой прамаўлялі ўсе прысутныя. Адзначалася таксама, што судзьдзя Вярхоўнага суду паказаў добрае, а прадстаўнік Міністэрства юстыцыі Аляксандар Харытон - "бездакорнае" валоданьне дзяржаўнаю беларускаю моваю і г.д.

### ЗАКРЫВАЮЦЬ ГАЗЭТУ

У пачатку лютага Гарадзенскі гаспадарчы суд задаволіў іск Смаргонскага райвыканкама аб спыненьні дзейнасьці прадпрымальніка Рамуальда Ўлана, уласьніка "Новай газэты Смаргоні". Р. Улан у 1996-м годзе заснаваў незалежнае выданьне, якое цяпер нават не канкурэнт абрыдлай "раёнцы". Напрыклад, наклад "Новай газэты" 8 000 асобнікаў, а "Сьветлага шляху" - 2 000. Незалежная газэта была бяльмом на воку раённай адміністрацыі. Апрача таго, Улан зажадаў адчыніць аналягічныя выданьні ў Ашмянах і Астраўцы, а тут яшчэ і выбары на носе. Вось цярпеньне мясцовай вэртыкалі й лопнула. Улана абвінавацілі ў парушэньне падатковага і працоўнага заканадаўства, невыкананьне правілаў пажарнай бясьпекі. Ня ў тым куце, відаць, вядро зь пяском стаяла.

Цяпер, згодна з рашэньнем суду, дзейнасьць прадпрымальніка мусіць быць скасаваная да 3-га траўня, а разам з гэтым і газэта мусіць закрыцца. Зволяць больш за дзесятак журналістаў. На гэта ў Смаргонскім райвыканкаме адказалі: працу на біржы знойдуць усім, таму хай журналісты не засмучаюцца.

### СХОД ПЕРАНЕСЬЛІ

Сход беларускай інтэлігенцыі, які планаваўся на 16-га лютага, пройдзе роўна месяцам пазьней. Афіцыйная прычына - улады не далі згоду праводзіць зьезд у памешканьні Палацу Рэспублікі. Аднак, хутчэй за ўсё, не падрыхтаваліся як след. Пачакаем.

### ЗА ЛЕПШАЕ ЖЫЦЬЦЁ!

Актывісты "Хартыі-97" плянуюць правесьці 12-га сакавіка ў цэнтры Менску "Агульнанацыянальны марш "За лепшае жыцьцё!". Акцыя пройдзе пад сацыяльнымі лёзунгамі, галоўны зь іх - супраць зьбяднеrazьня народу.

Як заўважыў адзін палітоляг, такія акцыі ў цэнтры гораду ні да чаго не прыводзяць. На праспэкце Скарыны людзі выглядаюць сытымі, а з такімі сацыяльнымі клічамі трэба ісьці на ўскраіны. Але туды й АМОНаўцы з мэтай разгону ня схочуць ехаць, ды й тэлевізійнікі адмовяцца.

### СУПРАЦЬ ВАЙНЫ

Паўтары тысячы чалавек сабраліся 15-га лютага на менскай плошчы Бангалёр, пратэстуючы супраць магчымай вайны ў Іраку. Арганізатарам акцыі была Фэдэрацыя прафсаюзаў Беларусі. Удзел бралі камуністы розных масьцяў, нацыянал-бальшавікі ды інш. Самым цікавым быў выступ былога кіраўніка голдынгу "Літаратура і мастацтва" Сяргея Касьцяна, які абазваў палітыку ЗША і Вялікабрытаніі "фашызмам", а скончыў прамову воклічам: "Жыве Садам! Жыве Лукашэнка!"

### ПАДАЛІ НАДЗЕЮ

Вярхоўны суд запатрабаў на азанаямленьне справу журналіста газэты "Пагоня" Паўла Мажэйкі, які адбывае "хімію". Пры канцы лютага мусіць быць вынесена канчатковае рашэньне.

### ПЕРАТРУС БЕЗ ОРДЭРУ

15-га лютага ў кватэры гарадзенскага прадпрымальніка, кіраўніка Рэспубліканскага страйкама Валера Леванеўскага міліцыя зладзілаператрус. В. Леванеўскі акурат прыехаў зь Менску, дзе браў удзел у сустрэчы лідэраў прадпрымальніцкіх структураў, дзе дамовіліся пра сэрыю акцыяў пратэсту ўвесну.

Ператрус праводзілі 10 супрацоўнікаў міліцыі, не маючы на гэта нават ордэру. Канфіскавалі некалькі пачак улетак, забралі рызограф і зьніклі. Леванеўскі нават ня ведае куды скардзіцца, бо ўсё роўна дарэмна.

### МОЛАДЗЬ СЬВЯТКУЕ

14-га лютага Малады Фронт зладзіў чарговую акцыю "любові" з нагоды Дня Сьвятога Валянтына. Напярэдадні лідэр арганізацыі Павал Севярынец заявіў, што па характары "акцыі любові" можна будзе меркаваць пра ўсю вясну-2003. На акцыю сабралося ня больш за 50 чалавек, уключна з журналістамі.

Удзень маладафронтаўцы абыходзілі амбасады эўрапейскіх дзяржаваў і ЗША, дзе ўручалі пэтыцыі. У першай пэтыцыі заклікалі не ствараць жалезную заслону на мяжы зь Беларусьсю. Маўляў, беларускі народ не вінаваты. У другой прапаноўвалі вылучыць лідэра кубінскай апазыцыі Освальда Пайю на Нобэлеўскую прэмію міру. "Што рабіць, калі беларусы не дацягваюць да прэміі міру", - сумна пракамэнтаваў П. Севярынец.

Увечары 14-га лютага маладафронтаўцы прайшліся ад плошчы Якуба Коласа да будынку Нацыянальнай Акадэміі Навук, а потым назад да Плошчы Перамогі. На рагу праспэкта Скарыны й вуліцы Казлова пазасталых удзельнікаў акцыі перанялі АМОНаўцы, затрымалі шэсьць чалавек. У панядзелак, 17-га лютага, прайшлі суды над маладымі людзьмі. Павал Севярынец і сябра ўправы МФ Артур Сінькевіч атрымалі па дзесяць сутак арышту, астатнія - меней.

### ТУРКМЕНБАШЫ ПА-БЕЛАРУСКУ

Беларусы нарэшце дачакаліся. Кніга прэзыдэнта Тукрмэністана Сапармурата Ніязава "Рухнама" выйшла па-беларуску. Яе пераклад зрабілі Леанід Дранько-Майсюк, Анатоль Кудравец, Анатоль Бутэвіч і Мікалай Сільчанка. У інтэрв'ю "Радыё Свабода" Леанід Дранько-Майсюк патлумачыў свой удзел у перакладзе чыста эканамічнымі прычынамі - паэт ужо каторы месяц беспрацоўны.

*Уласны карэспандэнт*

**Артыкул Зянона Пазьняка "Ня йдзіце - падмануць!", надрукаваны ў папярэднім нумары, выклікаў неадназначную рэакцыю нашых чытачоў. Сёньня зьмяшчаем артыкул, аўтарка якога прытрымліваецца іншых паглядаў на ўдзел у выбарах у мясцовыя саветы, якія адбудуцца 2-га сакавіка 2003-га году.**

# ВЫБАРЫ - ШЛЯХ ДА ЛЮДЗЕЙ

У Беларусі 2-га сакавіка маюць адбыцца выбары ў мясцовыя Саветы, гэта значыць ў сельскія, раённыя, гарадзкія і абласныя. Рэальная сіла іх невялікая, бо ўсё прыдушана лукашэнкаўскай "вертыкальлю", але, паводле Канстытуцыі, заканадаўства - гэта значная частка прадстаўнічай галіны ўлады, і Менскі гарадзкі ды абласныя Саветы на грамадзкае жыцьцё ўплываюць.

Пасьля доўгіх і сур'ёзных дыскусыяў Партыя БНФ вырашыла браць удзел у выбарах. Разам з тым кіраўніцтвам была прынятая заява, што мы па-ранейшаму лічым пераварот 1996-га году антыканстытуцыйным і створаную пасьля яго структуру ўлады - нелегітымнаю. Дэпутаты ад Партыі БНФ, выбраныя народам, будуць легітымнымі прадстаўнікамі народу, але гэта зусім ня значыць, што легітымнай будзе ўся існуючая сыстэма ўлады. Такая дваістая пазыцыя моцна ўскладняе працу кандыдатаў ў дэпутаты. Яны апынуліся ў ролі лякмусавай паперкі, у нашым выпадку - людзкія настроі, чаканьні, гатоўнасьць да дзеяньняў.

Натуральна, галоўная мэта кожнага кандыдата - стаць дэпутатам. Але Партыя БНФ падчас выбарчай кампаніі вырашае адначасна і некалькі агульных задачаў. Па-першае, яна атрымлівае магчымасьць свабодна выйсьці да людзей: пашыраць свае ідэі, адкрыта гаварыць пра існуючую ўладу, прапаноўваць шляхі выхаду з сыстэмнага крызысу, які руйнуе Беларусь. Па-другое, Партыя БНФ можа адкрыта паказаць, што ў яе актыве адукаваныя, гатовыя да ахвярнай працы спэцыялісты, а людзі пра іх мала ведаюць, бо сродкі масавай інфармацыі закрытыя для іншадумцаў. Па-трэцяе, за апошнія гады падрасьлі новыя, маладыя фронтаўцы, у іх шмат энтузыязму, але няма належнага досьведу працы ў выбарчай кампаніі, а бяз гэтага прафэсійны палітык абыйсьціся ня можа. ¨сьць і шэраг іншых прычынаў, бо грамадзка-палітычнае жыцьцё надзвычай разнастайнае.

Агулам па Беларусі было вылучана 26 567 кандыдатаў у дэпутаты. (Паводле выбарчага заканадаўства вылучаць могуць працоўныя калектывы, партыі й грамадзяне - шляхам збору подпісаў.) Выбарчыя камісіі зарэгістравалі ня ўсіх. Фронтаўскіх вылучэнцаў "адсеялі" амаль 40%. Найбольш - у Менску, на Гарадзеншчыне і Берасьцейшчыне, дзе ў нас больш прыхільнікаў. А на Гомельшчыне і Магілёўшчыне, дзе пазыцыі Партыі БНФ слабейшыя, пакінулі большую колькасьць нашых кандыдатаў. Прычыны для нерэгістрацыі таго ці іншага чалавека знаходзіліся лёгка. Калі не было нейкай фармальнай зачэпкі, выдумлялі абы што, а пакуль бедалага аспрэчыць хлусьлівае абвінавачаньне, тэрміны рэгістрацыі сыходзяць, і праблема зьнікае сама па сабе. Так, прафэсара Юрыя Хадыку не зарэгістравалі кандыдатам у Менскі гарсавет, бо ў дэклярацыі аб маёмасьці не напісаў пра 24 тысячы ганарару за нейкую рэцэнзію (24 тыс. - крыху больш за 10 даляраў), дырэктара ліцэя Уладзімера Коласа зьнялі за "ўтойваньне" некалькіх квадратных сантымэтраў дачнага ўчастка (акругліў лічбы). Сяргея Салаша з Барысава абвінавацілі ў тым, што подпісы на яго-ных падпісных аркушах непраўдзівыя. Ён аспрэчыў гэта ў судзе, жанчыны (афіцэрскія жонкі!) прыехалі сьведчыць, што сапраўды падпісваліся за ягонае вылучэньне... Суд, аднак, прызнаў правамоцным рашэньне выбарчай камісыі. Абураныя жанчыны заявілі, што цяпер яны будуць гарою стаяць за БНФ.

Падобныя прыклады можна доўжыць. "Непісьменныя" кандыдаты, дарэчы, былі толькі сярод дэмакратычных, апазыцыйных. Людзі ўлады парушэньняў "не дапускалі". Пэўную частку кандыдатаў змусілі зыйсьці "дабраахвотна" - пагражалі зволіць з працы або іншым чынам пазбавіць заробка, а калі ў чалавека сям'я, дзеці... Цяжка чалавеку быць вольным.

Улады вельмі моцна трымаюць выбарчую кампанію ў сваіх руках, каб любымі сродкамі зьберагчы ўласныя пазыцыі. Так, пры фармаваньні выбарчых камісыяў яны адкінулі амаль усіх сябраў, прапанаваных партыямі дэмакратычнай арыентацыі. (Партыя БНФ мае толькі аднаго свайго чалавека ў Менскай гарадзкой выбарчай камісіі.) Такім чынам створаныя перадy-

*Заканчэньне на бач. 4*

# ПРАВАСЛАЎНЫЯ СЬВЯТАРЫ Ў ПОЛЬСКІМ ВОЙСКУ

**Водгук і дапаўненьне да артыкулу М. Швэдзюка "Япіскапы й сьвятары Польскай Праваслаўнай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы ў Вялікай Брытаніі й пры польскім войску на Захадзе", надрукаваным ў "Беларусе" № 478-479.**

Вельмі прыемна было прачытаць пэўныя зьвесткі пра жыцьцё беларускіх праваслаўных жаўнераў пры польскім войску на Захадзе. Мне давялося быць у ім пэўны час. Дасылаю Вам копіі некалькіх здымкаў з тых часоў. Пажадана было-б апрацаваць дакладней гэтае пытаньне пакуль яшчэ жывуць сьведкі.

Пра а. М. Бажэр'янава больш ведае нейкая жанчына ў Таронта, якая было ў лягерох у Афрыцы, а таксама матушка Зося Вялікая. Я часьцяком карыстаўся Малітоўнікам Праваслаўным, укладзеным а. М. Бажэр'янавым, пры Багаслужбах Абедні, Утрані й Вячэрні, бо там усй дакладна апрацавана. У гэтым вялікая заслуга сьвятара. Шкада, што шмат копіяў, думаю, выкінулі, ліквідуючы архіў яп. Савы й пазьней яп. Матэвуша (Мацьвея) ў Лёндане. Аб гэтым могуць больш сказаць а. Павал Вялікі й Юрка Весялкоўскі.

Дом яп. Матэвуша ў Лёндане прадалі й грошы перадалі на карыстаньне праваслаўнае царквы ў Лёндане. Спадзяюся, нехта ва ўсім гэтым разьбярэцца.

**Віталь ЦЯРПІЦКІ**



*Пераходны лягер Сан-Базыліо 7-й Дывізіі. У другім радзе стаяць а. Мікалай Краўчанка (у чорным падрасьніку), кап. Ян Сотнікаў, матушка Вера Краўчанка, ген. япіскап Сава (Саветаў), кап. Усевалад Яськоў. Унізе: перад а. Краўчанкам Віталі Цярпіцкі, апошні кленчыць Кляйноў з Наваградка, ззаду яго стаіць Аляксандар Аляхновіч, дапаможны бас рэгента Апанасіка. Між іншым, я жыў ззаду капліцы, якая месьцілася ў доўгім намёце. Капэлян 7-й Дывізіі Савіцкі, якога я застаў, па хваробе пайшоў у адстаўку, а на ягонае месца быў рукапакладзены кап. Ян Сотнікаў, якому мне прыйшлося шмат дапамагаць.*




*Стаіць у першым радзе трэці зьлева псаломшчык Анатолі Апанасік, каля яго а. М. Краўчанка, яп. Сава, кап. У. Яськоў, камандант, кап. Я. Сотнікаў (з папераю ў руцэ), кленчаць харысткі зь лягеру.*



*Лягер Трані. Зьлева направа: камандант лягеру, кап. У. Яськоў, яп. Сава, кап. Я. Сотнікаў, а. М. Краўчанка, А. Аўдзей.*

## ВЫБАРЫ Ў БЕЛАРУСІ

**Заканчэньне. Пачатак на бач. 3**

мовы для магчымых фальсыфікацыяў вынікаў выбараў. Рэгістравалі нашых людзей, трэба сказаць, таксама прадумана. Найперш на тых акругах, дзе ідуць чыноўнікі ці гаспадарнікі высокага ўзроўню. (Выбаршчыкі, як правіла, спадзяюцца на дапамогу такіх асобаў і галасуюць за іх.) Маладых людзей пакідалі ў спісах там, дзе жыве шмат пэнсыянэраў.

Мне выпала акруга, дзе ў пачатку 1990-х пасьпяхова балатаваўся ў Вярхоўны Савет Беларусі сп. Пазьняк. Але ў 1995-м годзе выбраны тут ужо ня быў...

Кандыдатаў у дэпутаты ад Партыі БНФ у рэшце па Беларусі засталося 111, зь іх 15 - у Менскі гарсавет (там 55 дэпутацкіх месцаў). Ці дойдзе хто да перамогі?

Мае канкурэнты ў акрузе - камуніст, старэйшы за мяне гадоў на дзесяць, і маладзейшая дырэктарка сярэдняй школы, лукашыстка, па словах яе нядаўніх вучняў. Які прыгожы расклад: камуніст, нацыяналістка, а сярод іх "харошая беспарційная жэншчына"! І вельмі верагодна, што ўлады будуць гуляць у яе карысьць. Разумеем, што запабегчы гэтаму ня зможам, але кантроль у час галасаваньня маем намер зладзіць, нават з камуністам паспрабуем навязаць кантакт дзеля кантролю. Дарэчы, у апошнія дні пачаліся перамовы паміж лідэрамі партый дэмакратычнай арыентацыі наконт лякальнага байкоту выбараў на тых акругах, дзе ня быў зарэгістраваны ніводзін "нявыгадны" кандыдат. Сытуацыя абвастраецца.

Для таго, каб чытачы маглі хоць крышачку ўявіць перадвыбарчую працу ў беларускіх умовах, падзялюся некаторымі ўласнымі назіраньнямі. У маёй акрузе - 23 500 выбаршчыкаў. Улётак ці якой іншай агітацыйнай літаратуры можна надрукаваць на 96 тысяч беларускіх рублёў (50$). За перавышэньне гэтай сумы, за ўлёткі без пазначэньня накладу ці друкарні здымуць з выбарчай гонкі. (Улётак мы вырабілі 6 500. А кватэраў - 10 350. Такім чынам, нават не ў кожную сям'ю можа трапіць інфармацыя пра кандыдата). Дазволены адзін выступ (3 хвіліны) па гарадзкім радыё. Каб зладзіць пікет ля крамы ці сустрэчу ў двары жылога дому, мне трэба за 15 дзён напісаць заяву ў гарвыканкам. Можна мець 5 памочнікаў-дабраахвотнікаў (ім даюць пасьведчаньні), якія маюць права, як і сам кандыдат, хадзіць з улёткамі па кватэрах. Ходзім!

З кім ні загаворыш - жальбы й нараканьні. Кошты камунальных паслугаў апошнім часам узрасьлі так, што ў пенсыянэраў на хлеб грошай не застаецца, лекі - недасягальныя. Маладыя губляюць працу і шанец знайсьці новую. Калі трапляеш у больш заможную сям'ю, то адразу пра хабар і непамерныя падаткі павядуць гаворку... Вядома, ёсьць і такія, што не адчыняюць увогуле або зачыняюць дзьверы, як толькі адчуюць, што мы супраць палітыкі Аляксандра Лукашэнкі.

Шмат людзей станоўча ўспрымае тое, што кандыдат - жанчына (у выбарах 1995-га году я бачыла адваротную рэакцыю). І матывацыя прыблізна такая: "Мужыкі ўсё гаворацць... А бабы робяць". Спрыяе кантактам і прафэсія. "Журналістка? То хоць пасварыцца зь якім начальнікам..."

Наша беларускамоўнасьць успрымаецца спакойна нават тымі, хто адказвае на расейскай. Часам гавораць ў адказ штосьці ўхвальнае наконт мовы, здараюцца і заявы кшталту "не понимаю"... Праўда, раён гэты рабочы, большыня мае вясковыя карані. Партыйнасьць нашая многіх насьцярожвае, людзі баяцца таго, пра што мала ведаюць, што ў радыё- і тэлеперадачах падаецца нэгатыўна. Даводзіцца выконваць ролю партыйных асьветнікаў. А час ляціць так хутка... Колькі людзей мы пасьпеем абыйсьці за адзін месяц, і колькі зь іх насьмеляцца далучыцца да нас, да Партыі БНФ? Веру, аднак, што некалі ўсё гэта дасьць плён, проста, крок за крокам трэба ісьці наперад. Як Майсей у пустыні.

Што да развагаў кшталту "ня ідзі на выбары - абдурацць", дык яны нагадваюць мне павучаньні затурканай старой кабеты: "Ня верце, дзеўкі, хлопцам. Абдурацць!" Калі-б усе дзяўчаты бяздумна кіраваліся гэткаю парадаю, жыцьцё-б на зямлі спынілася.

Жыве Беларусь!

**Валянціна ТРЫГУБОВІЧ**



**Весткі й Паведамленьні**

нью ерскага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня

Viestki j Paviedamlenni

Belarusan American Association, Inc.

166-34 Gothic Drive, Jamaica, N.Y. 11432 **Сусьветнае павуціньне:** http://belam.cjb.net

**№3 (446)**

# ЛЮТАЎСКІ СХОД АДДЗЕЛУ БАЗА

Чарговы сход нью ёрскага аддзелу БАЗА адбыўся 8-га лютага. Напачатку з паведамленьнем аб паездцы дэлегацыі беларускай дыяспары ў Вашынгтон і аб падзеях у Беларусі за апошні месяц выступіў старшыня аддзелу сп. Віталь Зайка. Ён паінфармаваў прысутных пра пытаньні, што разглядаліся з прадстаўнікамі амэрыканскіх уладаў, адзначыў плён паездкі й падкрэсьліў неабходнасьць пашырэньня і ўзмацненьня такіх кантактаў. Далей прамоўца распавёў пра сытуацыю ў Беларусі. Найбольшую небясьпеку яе незалежнасьці нясуць інтэграцыйныя гульні Лукашэнкі, пляны па скасаваньні нацыянальнай валюты й увядзеньні расейскага рубля, што сарамліва завецца "стварэньнем адзінай валюты". Рэжым Лукашэнкі заявіў пра акцыянаваньне "Белтрансгазу" і ўвядзеньне безнаўнага расейскага рубля ўжо ў ліпені. Як адзін з асноўных атрыбутаў незалежнасьці, свая валюта - гэтак-жа як свой урад, дзяржаўныя межы, войска, амбасады, свая дзяржаўная мова і г.д. - адрозьнівае свабодны край ад паняволенага.

Далей сп. Зайка паведаміў пра "Адкрыты ліст да беларускага народу" Старшыні Рады БНР спн. Івонкі Сурвіла. Яна заклікае ўсіх беларусаў напярэдадні 85-й гадавіны Акту 25-га Сакавіка сказаць сьвету, што воля і незалежнасьць Беларусі не падлягаюць ніякаму гандлю і шантажу. Далей прамоўца распавёў пра ўзнаўленьне дзейнасьці АБСЭ ў Беларусі, пра гульню вакол міграцыйных картак для грамадзянаў Беларусі ў Расеі, аб працы над канстытуцыяй г.зв. "саюзнай дзяржавы Беларусі й Расеі", кіраваць якою, ясна, будзе Расея. Сярод іншых навінаў былі ўзгаданы махлярствы рэжыму пры падрыхтоўцы да мясцовых выбараў, пра адмову рэгістраваць кандыдатаў ад апазыцыі. Цікава, што адзін з пасьлядоўных прыхільнікаў удзелу ва ўсіх выбарах, старшыня партыі сацыял-дэмакратаў "Народная Грамада" М. Статкевіч гэтым разам выказаўся пра магчымасьць байкоту.

Потым адбылася першая лекцыя з цыклю гутарак і лекцыяў пра выбітных дзеячоў беларускай грамады ў Амэрыцы. Сп. Вячка Станкевіч распавёў пра свайго бацьку Янку Станкевіча (1891-1976), выдатнага грамадзкага дзеяча, мовазнаўцу, перакладчыка Бібліі на беларускую мову. Напачатку было адзначана, што менавіта з дапамогаю Янкі Станкевіча ў 1949-м годзе ў памешканьні на 100-й вуліцы ў гішпанскім Гарлеме ў Нью Ёрку было заснаванае Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне. Гаворачы аб маладых гадох Янкі Станкевіча, прамоўца адзначыў, што ён пачаў грамадзкую дзейнасьць у 16 гадоў, распаўсюджваючы на Віленшчыне газэту "Наша Ніва". Я. Станкевіч паходзіў зь вёскі Арляняты на Ашмяншчыне, што дала шмат беларускіх дзеячоў з такім-жа прозьвішчам. Перад 1-ю Сусьветнаю вайною Я. Станкевіч далучыўся да рэдакцыі "Нашай Нівы". З пачаткам вайны быў мабілізаваны ў расейскае войска. Адзін час, будучы ў Казані, Станкевіч выкладаў беларускую гісторыю і культуру беларускім уцекачам з прыфрантовай зоны, якіх расейскія казакі выганялі сілком, часта ўжываючы рабункі й гвалты. Станкевіч ваяваў на Румынскім фронце, трапіў у аўстрыйскі палон. Пасьля вайны ён вяртаецца на Віленшчыну, што апынулася пад Польшчаю, наладжвае беларускую нацыянальную працу, школьніцтва, супрацоўнічае з летувіскімі дзеячамі, адстойваючы правы беларусаў у польскай квазі-дзяржаве - "Сярэдняй Літве". Завяршыўшы сярэднюю асьвету ўжо ў сталым узросьце ў Віленскай беларускай гімназіі, Станкевіч выехаў на вучобу ў Карлаў унівэрсітэт у Прагу. На пачатку 1920-х гадоў, для жыхароў Заходняй Беларусі была магчымасьць атрымліваць адукацыю, карыстаючы з стыпэндыяў выданых па прапанове прэзыдэнта Чэхаславакіі Тамаша Масарыка. Тады ў Празе знаходзіўся ўрад БНР, вучыліся І. Дварчанін, У. Жылка, А. Орса, Я. Геніюш ды шмат іншых беларусаў. Атрымаўшы ступень доктара філялёгіі за працу аб гісторыі беларускай мовы на падставе мовы Аль-Кітабаў, пісаных арабскімі літарамі па-беларуску ("арабіца"), Станкевіч вяртаецца ў Беларусь, пачынае выкладчыцкую дзейнасьць. У 1928-м годзе ён быў абраны паслом ад лідзкай акругі ў польскі сойм. Пасьля разгону Сойму зноў узяўся за выкладаньне. Калі пачалася 2-я Сусьветная вайна, Станкевіч быў арыштаваны польскімі ўладамі як ненадзейны элемент, потым трапіў у Вільню, занятую летувісамі, а як прыйшлі Саветы, уцёк у Варшаву. З 1941-га году зноў у Беларусі, займаўся школьніцтвам і выдавецкай дзейнасьцю. У 1944-м годзе падаўся на Захад, жыў у ДП-лягерох, а ў 1949-м годзе прыехаў у Нью Ёрк. Тут займаўся грамадзкаю працаю, выдавецкай дзейнасьцю, пераклаў па-беларуску Біблію. Сваю маёмасьць пакінуў адмысловай фундацыі, якая мела пасьмяротна выдаць ягоныя творы. Сп. Вячка Станкевіч паказаў кнігі, напісаныя бацькам. Прысутныя агледзелі фатаздымкі, зьвязаныя зь ягонай дзейнасьцю.

Потым са сваімі ўспамінамі аб Янку Станкевічу выступіў сп. Антон Шукелойць. Ён прыгадаў сваю першую сустрэчу з Я. Станкевічам у Ашмяне, калі вучням 6-й клясы гімназіі, прыйшоў на паседжаньне нелегальнага беларускага гуртка. Тады Я. Станкевіч, едучы зь Вільні ў Арляняты, заехаў у Ашмяну і прачытаў рэфэрат аб Аль-Кітабе. Пасьля, паступіўшы на аддзяленьне славянскай філялёгіі Віленскага ўнівэрсытэту, сп. Шукелойць слухаў курс беларускай мовы, выкладаны Я. Станкевічам. Сп. Шукелойць адзначыў высілак Станкевіча па ўвядзеньні ў зварот гістарычнага слова-звароту "спадар" (датуль у беларускім асяродку ўжываўся "пан" або "грамадзянін"). Але найважнейшым фактам у дзейнасьці Я. Станкевіча быў удзел у прыняцьці Акту 25-га Сакавіка. У тыя часы ідэя незалежнасьці не была простаю і яснаю, як мы бачым яе сёньня. Аднак самаадданая праца братоў Івана і Антона Луцкевічаў, іншых пераканаых у патрэбе незалежнасьці беларусаў дала свой плён. Сярод прысутных актывістаў, падтрымаўшых абвешчаньне незалежнасьці, быў і Янка Станкевіч, які ўжо тады выдзяляўся зацятасьцю і адданасьцю беларускай справе. Наступныя сустрэчы сп. А. Шукелойця з Я. Станкевічам былі ў Менску падчас нямецкай акупацыі, калі Я. Станкевіч падтрымоўваў дзейнасьць Беларускай Незалежніцкай Партыі, якую ўзначаліў Вацлаў Іваноўскі. Потым спаткаліся ўжо ў Нью Ёрку, калі Я. Станкевіч сустрэў прыбыўшага з Эўропы А. Шукелойця і адвёз у прыгатаванае жытло. Затым была сумесная праца па арганізацыі беларускага грамадзкага жыцьця ў Амэрыцы. Сп. Шукелойць нагадаў, што Я. Станкевіч быў працяглы час віцэ-старшынём БАЗА, супрацоўнічаў у розных праектах - Беларускага навуковага таварыства імя Ф. Скарыны, выдаваў часапіс "Веда". Ён падрыхтаваў для нейкага амэрыканскага інстытуту граматыку беларускай мовы, якую варта было-б адшукаць.

Сп. Францішак Бартуль падзяліўся ўспамінам аб сустрэчы з Я. Станкевічам у 1944-м годзе ў Вільні, дзе той знаходзіўся разам з В. Тумашам, В. Жук-Грышкевічам ды іншымі дзеячамі. Тая сустрэча моцна паўплывала на самаўсьведамленьня сп. Ф. Бартуля як беларуса.

Прысутныя мелі магчымасьць набыць творы Я. Станкевіча.

Затым у разьдзеле "Рознае" прагучалі аб'явы й паведамленьні, адбылося знаёмства з маладымі людзямі, якія ўпершыню прыйшлі на паседжаньне аддзелу. Прысутныя павіншавалі двух сябраў аддзелу, што здабылі афіцыйны статус у ЗША. Потым удзельнікі сходу перайшлі да шчодра накрытага стала, дзе ў неафіцыйнай атмасфэры працягвалася калегаваньне.

***Віталь ЗАЙКА***

## Уплаты ў нью ёрскі аддзел БАЗА:

**Ахвяраваньні на дзейнасьць аддзелу БАЗА:**

| | | | |
|---|---|---|---|
| А. Гаўрылаў | 30 | Н. Шашкель | 20 |
| А. Нікалаенка | 30 | Н. Пратасевіч | 3 |

**Складкі:**

| | | | |
|---|---|---|---|
| Т. Красоўская | 30 | Дз. Юшчык | 30 |
| А. Шукелойць | 30 | | |

**Шчыры дзякуй!**

**Уплаты ў аддзел дасылайце скарбніку на адрас:**
*Valeri Dvornik*
*172 Millspring Rd.*
*Manhasset, N.Y. 11030*
*Чэкі выпісвайце на* ***Belarusan American Association.***

**Ахвяраваньні на БелПом дасылайце на адрас:**
*A. Mickievic*
*90-16 54th Ave*
*Elmhurst, NY 11373*
*Чэкі, калі ласка, выпісвайце на імя* ***A. Mickievic***

**НАСТУПНЫ СХОД НЬЮ ЁРСКАГА АДДЗЕЛУ БАЗА АДБУДЗЕЦЦА 8-га САКАВІКА 2002 ГОДУ А 7-й ВЕЧАРА Ў ФУНДАЦЫІ ІМЯ П. КРЭЧЭЎСКАГА АДРАСУ:**
***166-34 GOTHIC DR., JAMAICA***
***Даезд цягніком падземкі F да 169th Street.***
**СХОД ПРЫСЬВЕЧАНЫ ЖЫЦЬЦЮ І ТВОРЧАСЬЦІ Н. АРСЕНЬНЕВАЙ.**

# СЭМІНАР У ВАШЫНГТОНЕ

***Заканчэньне. Пачатак на бач. 7***

га году быў зьбіты паветраны шар з двума амэрыканскімі спартоўцамі. Калі-б тады ЗША рэзка і рашуча адрэагавалі, гэта магло-б стрымліваць далейшыя крокі Лукашэнкі. На жаль, заяваў зроблена не было, а сем'і загінуўшых нават не атрымалі належнай кампэнсацыі. Увага да Беларусі зьявілася ў пэўным сэнсе запозна, толькі пасьля канцэнтрацыі Лукашэнкам абсалютовай улады. Разам з тым ЗША былі больш жорстка, чым Эўропа, настаўленыя да дзеяньняў Лукашэнкі. І ў апошні час, дзякуючы намаганьням кангрэсмэнаў і сэнатараў Гэлмса, Сьміта, МакКэйна, Кэмбэла, Гэйдэнсана, Лантэса, беларускае пытаньне рэальна стала пад разгляд амэрыканскага Кангрэсу. Прапанаваны Акт аб Дэмакратыі ў Беларусі можа зрабіцца паваротным пунктам у найноўшай беларускай гісторыі, і дапамога Беларусі пяройдзе ў больш практычнае рэчышча. Трэба памятаць, што праз Беларусь ідуць нафта- і газаправоды, праз якія транспартуецца на Захад паліва, што дае вялізную частку нацыянальнага прыбытку Расеі. Беларусь нельга скідаць з рахункаў.

І Амэрыка можа зрабіць вельмі шмат - дапамагчы ўмацаваньню дэмакратыі, грамадзянскага супольніцтва, палітычных партыяў. Перадачы радыё на Беларусь мусяць павялічыцца, варта стварыць і тэлевізійныя перадачы. Трэба дапамагчы незалежным медыям. Будзем спадзявацца, што гэта неўзабаве стане рэальнасьцю. У адказах на пытаньні прамоўца больш канкрэтна выказаўшыся пра дапамогу для Беларусі, перспэктывы дэмакратыі, месца беларускай культуры ў кансалідацыі нацыі. Наконт шанцаў для незалежнасьці Беларусі выступоўца адзначыў, што ён аптыміст. Прысутныя на сэмінары прадстаўнікі беларускай грамады актыўна скарысталі з нагоды задаць пытаньні й выказаць свае думкі. Варта адзначыць, што сэмінар прайшоў пры перапоўненай залі, што сьведчыць аб падвышэньні ўвагі да Беларусі сярод амэрыканскага грамадзтва.

***Віталь ЗАЙКА***

# У ГОРАДЗЕ ВЯСНЫ



Чытаю я газэту "Беларус" і бачу, што большасьць навінаў і абвестак зь Нью Ёрку. Гэта і зразумела, большасьць беларускай эміграцыі тамака і жыве. У Нью Ёрку ды Нью Джэрзі. Алеж ёсьць нашыя людзі й у іншых штатах, ці ня так? Усюль, дзе бываў дагэтуль, сустракаў я беларусаў. Хіба можа ня так шмат як у Нью Ёрку. Вось надумаўся распавесьці крыху пра Каліфорнію і яе насельнікаў.

Па прыезьдзе ў Сан Францыска ўсё навокал здаецца дзіўным, не такім як на ўсходнім узьбярэжжы ЗША. Вялікі горад, а будынкі не высокія, як на Мангэтане, тралейбусы на вуліцах, трамвайчыкі цягнуцца пад горку поўныя людзей на падножках. Ну і, безумоўна, надвор'е - заўжды вяснавое, не гарачае і не халоднае.

Адразу адшукаліся старыя сябры й знаёмыя, студэнты Менскага лінгвістычнага ўнівэрсытэту. Нехта ўжо ажаніўся, у кагосьці дачка малая па хаце бегае. Людзі навокал адукаваныя, але першае, што кідаецца ў вочы - гэта парачкі: хлопцы з хлапцамі пад руку, дзяўчаты зь дзяўчатамі - сусьветная сталіца меншасьцяў усё-ж такі. Ды надта міралюбівымі падаліся мне мясцовыя жыхары. У кастрычніку, а пасьля ў студзені я трапіў на дэманстрацыі супраць вайны з Іракам.

Людзі йшлі па галоўнай вуліцы з музыкаю і плякатамі. А на плякатах тых такія вострыя карыкатуры на амэрыканскага прэзыдэнта. О-ёй! Паліцыянтаў-жа амаль ня бачна. Хіба што наперадзе рэгулююць рух, каб натоўп ішоў без перашкодаў па праежджай частцы. І ўсё гэта пад музыку званочкаў, барабанаў, духавога аркестру, пэрформансы пераапранутых актораў. Старэйшыя папрыводзілі дзяцей, папрыяжджалі інваліды на возіках і, вядома, не абыйшлося без гарадзкіх жабракоў, якімі сёньня поўніцца Сан Францыска. Шэсьце спынілася перад мэрыяй, дзе выступалі прамоўцы, раздавалася дармавая ежа і пітво. У думках міжволі ўзгадваліся беларускія акцыі пратэсту, азьвярэлыя міліцыянты, хапун, спалоханыя сумныя твары. Уявіце сабе тых інвалідаў у возіках ці жабракоў на прспэкце Скарыны ў Менску, калі людзей валакуць па аўтобусах - сумнае было-б відовішча...

Між іншым, што тычыцца бяздомных, то іх тутака цэлая процьма. Не прайсьці па вуліцы, каб не папрасілі дробязі. Але затое, якія яны калярытныя, быццам пэрсанажы казачныя! Аднаго сустрэў, які быў аднаногі, росту незвычайна высокага з доўгім кіём ды каўпак на галаве - бачна здальля і чуваць, як стукае па асфальце ягоны кій. У кожнага бяздомнага па супэрмаркетнаму возіку з розным скарбам, коўдрамі... Яны перасоўваюцца з месца на месца, ходзяць па горадзе. Кажуць пра іх, што яны ня проста так ходзяць, а гуляюць у манаполію: зьбіраюцца ўвечары ў якім пратулку, кідаюць косткі, глядзяць на мапе, а зранку абыходзяць квартал за кварталам. Нехта прапускае ход каля віна-гарэлачнай крамы, другому выпадае месца багатае на пустыя бутэлькі ды бляшанкі. Калі не прайшоў за дзень свой маршрут застаешся начаваць там, дзе ноч засьпее. Няпраўда, канешне, але сьмешная гарадзкая байка.

Вяртаўся я на днях з крамы ды сустрэў чалавека на галоўнай вуліцы. Той стаяў асобна, побач матацыкал, а на сьпіне мапа, уся скрэсьленая алоўкам. Аказаўся ён падарожнікам зь Менску, які на матацыкле аб'езьдзіў амаль увесь сьвет. Уладзімер Ярац глуханямы й падарожнічае з мэтаю патрапіць у Кнігу рэкордаў Гінэса. Чалавек ён унікальны. Возіць з сабою стос фатакартак, сшыткі з нататкамі й водгукамі людзей, якіх ён сустрэў. Спыняюцца мінакі, глядзяць на мапу, пытаюцца, ці на гэтым матацыкле ён столькі праехаў. Той не разумее, але ветліва ўсьміхаецца ды з радасьцю фатаграфуецца. Падыйшоў высокі хлопец у скуранцы, пільна углядваецца ў мапу. "Беларус?" - пытаюся я. Той станоўча ківае галавою, з нечаканасьці не ведаючы на якой мове мне адказаць. Паказваю пальцам Уладзімеру на хлапца, на сябе ды на Беларусь на мапе - той усхваляваўся, пацісну́ў хлапцу руку, вынуў стос фатакартак. Мінак усьміхнуўся, маўляў, няма часу, даў грошай і зьнік у людзкой плыні.

Падыходзілі да беларускага падарожніка турысты й мясцовыя людзі, усе цікавіліся, адкуль ён. Чулі пра далёкую краіну Беларусь ды ахвяроўвалі грошы на наступныя падарожжы. Я паабяцаў патэлефанаваць сыну Уладзімера ў Менск ды перадаць, што бацька жывы й здаровы, заўтра адлятае на Гаваі.

Заўсёды прыемна сустракаць суайчыньнікаў, пагаварыць пра сваю краіну, спытацца, хто чым займаецца ды пра пляны на будучыню. Ды вось што адметна, нашыя ў Каліфорніі, у каго не пытаўся, кажуць, што пераяжджаць нікуды не зьбіраюцца. Можа таму, што штат такі прыцягальны: прыехаць сюды лёгка, а разьвітацца зь ім цяжка.

**ДРЭЙ**

***На здымках: аўтар артыкулу з падарожнікам зь Менску Уладзімерам Ярцам; пацыфісты пратэстуюць супраць вайны ля гарадзкой мэрыі ў Сан-Францыска.***



# АНГЕЛЬСКІЯ ГАЗЭТЫ АБ БЕЛАРУСІ

**The Daily Telegraph**

Нам, колішнім спэцперасяленцам і палітычным эмігрантам, чытаньне ангельскіх газэтных артыкулаў аб Беларусі не прыносіць духовае асалоды. Амаль усе артыкулы крытычныя. Крытыкуюць у іх адсутнасьць дэмакратыі ў Беларусі, зьнікненьне палітычных апанэнтаў, зьнішчэньне апазыцыйных выданьняў, арышты журналістаў, недэмакратычныя выбары, дзяржаўную манаполію на мас-мэдыі й г. д. Аднак варта сачыць за тым, што пішуць у Брытаніі аб Беларусі.

Паважаная газэта ***"The Daily Telegraph"*** ад 21.09.02 зьмясьціла артыкул пад назваю "Беларускі дыктатар трымае жывою нэндзу савецкіх часоў". У падзагалоўку пішацца: "Бэн Арыс меў рэдкую аўдыенцыю зь неўстойлівым і аўтарытарным прэзыдэнтам, які зрабіў сваю дзяржаву парыйнаю*". Ужо сам загаловак і падзагаловак падказваюць, што ў артыкуле ня будзе нічога суцяшальнага аб сытуацыі ў Беларусі. На жаль, такія навіны не вынятак, а звычайная зьява.

Артыкул пачынаецца словамі А. Лукашэнкі аб тым, што ён ёсьць самым "найчасьнейшым прэзыдэнтам на сьвеце". Гэтыя словы выклікалі воплескі "мясцовых рабалепных журналістаў". Паколькі прэсавая канфэрэнцыя была добра зарганізаваная, то нават на дварэ група старанна падабраных прыхільнікаў давала прэзыдэнту пытаньні й просьбы.

Праз дзьве з гакам гадзіны А. Лукашэнка даваў павучэньні аб шкодзе курэньня і аб тым, што Беларусь не патрабуе дапамогі з-за мяжы, бо яна абрала "свой шлях да дабрабыту".

Артыкул узгадвае Міхаіла Чыгіра, былога прэм'ер-міністра, які скардзіўся, што лепшыя і наймудрэйшыя людзі ўжо пакінулі Беларусь. Паводле словаў сп. Чыгіра "з такім прэзыдэнтам Беларусь ня мае будучыні". Успамінаецца і сын Чыгіра, які асуджаны на сем гадоў зьняволеньня.

На канфэрэнцыі А. Лукашэнка заявіў, што ён магчыма выставіць сваю кандыдатуру на прэзыдэнцкіх выбарах 2006-га году. Але дзеля таго, што беларуская канстытуцыя не дазваляе быць прэзыдэнтам тры тэрміны, дык прыйдзецца рабіць... рэфэрэндум у гэтай справе. Аўтар артыкула сп. Бэн Арыс сьцьвярджае, што "... пры поўным кантролі мас-мэдыяў галасаваньне "за" ёсьць амаль гарантаваным..."

На жаль, у сягоньняшняй Рэспубліцы Беларусь, у адрозьненьне ад агульнапрынятых дэмакратычных нормаў, рэфэрэндумы адбываюцца не дзеля таго, каб народ выявіў сваю апінію аб важных падзеях, а дзеля таго, каб адобрыў дзіўныя і антынародныя асабістыя амбіцыі адное асобы. Так было зь дзьвухмоў'ем, сьцягам, гербам, Канстытуцыяй... А цяпер ужо ёсьць задума аб "трэцяй кадэнцыі". Чаму аб трэцяй, а ня вечнай?

Артыкул успамінае, што А. Лукашэнка крытыкаваў расейскага прэзыдэнта У. Пуціна з нагоды саюзу Беларусі й Расеі. Аналітыкі ў Беларусі лічаць, што А. Лукашэнка хоча аб'яднаць краіны толькі для таго, каб мець магчымасьць браць удзел у выбарах прэзыдэнта Расеі. Адзін палітык гэта акрэсьліў, як "ядзерна-запраўляючы, кашмарны сцэнар для ўсяго сьвету".

Ня ўсё у артыкуле крытыка. Аўтар не заплюшчвае вачэй і на добрыя бакі жыцьця ў Беларусі. Вуліцы й будынкі ў Менску чыстыя, трава скошаная. І сярэдні заробак у краіне прыблізна 75 фунтаў стэрлінгаў на месяц, пэнсіі выплочваюцца своечасова і зьяўляюцца яны аднымі з найвышэйшых у СНД.

Бэн Арыс успамінае аднаго незалежнага журналіста, які меў адвагу задаць А. Лукашэнку пытаньне. Якое яно было - не ўспамінаецца. Але адное тое пытаньне было нагодаю слоўнага нападу на журналіста. А. Лукашэнка, грозна махаючы пальцам, выдаў "шаблонную савецкую крытыку дысыдэнтаў". "Няма сумніву, хто ўстанаўляе законы ў Беларусі", - сьцьвярджае. Вось такая сёньня рэчаіснасьць у Беларусі.

**THE TIMES**

Яшчэ адная сур'ёзная ангельская газэта ***"The Times"*** ад 14.11.02 зьмясьціла артыкул пад загалоўкам "Беларусь пагражае Эўрапейскаму Зьвязу з нагоды саміту". Аўтар артыкулу Робін Шэпхэрд піша з Масквы. Напярэдадні саміту НАТО ў Празе Чэскай, на якім абмяркоўвалася, між іншых, справа пашырэньня гэтае арганізацыі, улучаючы Летуву, Латвію, Эстонію, А. Лукашэнку было забаронена прыяжджаць туды. Менавіта гэта сталася нагодаю для злосных і пагрозьлівых выказваньняў беларускага кіраўніка, які пагражаў затапіць Эўразьвяз нелегальнымі эмігрантамі, якіх у Беларусі ёсьць 150 000.

Выказваньні А. Лукашэнкі выявілі таксама, што Эўразьвяз не прадбачыў усіх праблемаў, якія могуць паўстаць пасьля прыняцьця Летувы, Латвіі, Эстоніі й Польшчы ў свой склад. Усе гэтыя дзяржавы, акрамя Эстоніі, мяжуюць зь Беларусьсю.

Артыкул успамінае аб напружаных стасунках паміж А Лукашэнкам і Заходняю Эўропаю, аб прадстаўніцтве АБСЭ, якому загадалі пакінуць Беларусь пасьля таго, як ягоныя супрацоўнікі скрытыкавалі прэзыдэнцкія "перавыбары" ў Беларусі ў 2001-м годзе.

Але ня толькі беларускага кіраўніка не хацелі бачыць у Празе. Урадоўцы НАТО выказваліся прыватна, што лепш было-б, каб і прэзыдэнт Украіны Кучма не прыяжджаў туды, бо яго падазравалі ў нелегальным продажы зброі Іраку.

Трэба дадаць, што Беларусь і Украіна тэарытычна мелі права браць удзел у паседжаньні ў Празе паводле варункаў Эўра-Атлянтычнай Удзельнай Рады.

Калі чытаем такія артыкулы, дык прыходзім да высноваў, што карэспандэнты ангельскіх газэтаў добра абазнаныя зь беларускімі справамі.

P. S. Сп. А. Лукашэнка не прыехаў на саміт у Прагу, а сп. Кучма прыехаў.

***Апрацаваў Міхась ШВЭДЗЮК***

# КНІГА ПРА ПАСЬЛЯВАЕННЫ СУПРАЦІЎ

Напрыканцы мінулага году ў выдавецтве Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту ў Менску выйшла кніжка Ігара Валахановіча "Антисоветское подполье на территории Беларуси в 1944-1953 гг.".

Ігар Валахановіч - супрацоўнік цэнтральнага архіву КГБ Беларусі, кандыдат гістарычных навук (ягоная кандыдацкая і сталася асноваю для гэтай кніжкі). Таму варта было чакаць ад ягонага дасьледаваньня абнародаваньня раней сакрэтных дакумэнтаў. Часткова Валахановіч гэтыя надзеі апраўдаў.

Згаданая кніга разглядае ня толькі беларускае падполье й партызанку, але й польскае, украінскае, летувіскае, якія дзеялі на тэрыторыі БССР у 1940-50-ыя гады. Нас-жа найперш цікавяць матэрыялы пра Беларускі Супраціў. Раней у дасьледаваньнях камуністычных і кагэбіцкіх дасьледчыкаў згадкі пра яго былі мінімальнымі, а ягоная дзейнасьць - тэндэнцыйна пададзеная. Ігар Валахановіч пастараўся амаль цалкам адмовіцца ад ідэалягічных штампаў, зьмяшчаючы як найбольш сухіх фактаў. Некаторыя зь іх, мы й разгледзім у гэтым артыкуле.

### Шкялёнак нелегальна жыў у Варшаве

І. Валахановіч згаджаецца, што галоўным арганізатарам беларускага партызанскага і падпольнага руху была Беларуская Незалежніцкая Партыя (БНП), таму шмат піша пра яе дзейнасьць. Напрыклад, пра стварэньне летам 1944-га ў Заходняй Беларусі 5 партызанскіх аддзелаў "каліноўшчыкаў", пра дэсанты батальёна "Дальвіц". Гісторыя Ўсевалада Караля, наагул, вартая дэтэктыўнай аповесьці. Ён, былы кіраўнік незалежніцкага Беларускага Студэнцкага Саюзу ў Вільні, перад вайною камсамольскі актывіст у Коўне, летам 1941-га быў эвакуяваны ў Маскву, дзе трапіў у спэцшколу ГРУ. Два разы ён з групамі выконваў заданьні ў тыле немцаў, пасьля скончыў курсы радыстаў і быў закінуты з групаю ў Летуву. Там яго арыштавала віленскае СД, але, даведаўшыся пра ягонае "нацыяналістычнае мінулае", Караля вызвалілі. Ён працаваў перакладчыкам у Менску, пасьля лекарам у Баранавічах. Кіраўнік БНП Усевалад Родзька меркаваў адправіць яго, як паўнамоцнага прадстаўніка, на перамовы з польскім урадам у Лёндан. Праўда, з гэтага нічога не атрымалася.

Валахановіч трохі прыадкрывае тайну зьнікненьня віцэ-прэзыдэнта БЦР, гісторыка і публіцыста Міколы Шкялёнка. Аказваецца, пасьля капітуляцыі Нямеччыны Шкялёнак прабраўся з Бэрліну ў Варшаву. Там 17-га чэрвеня 1945-га году на канспірацыйнай кватэры ён прымаў удзел у тайнай нарадзе актыву БНП. Акрамя яго на нарадзе прысутнічалі Родзька, браты Луцкевічы й Язэп Пабяржын. Шкялёнак атрымаў заданьне вярнуцца ў Бэрлін і ўстанавіць сувязь зь беларускімі эміграцыйнымі цэнтрамі. Што зь ім было далей, Валахановіч ня піша.

### Саюз Барацьбы Супраць Камунізму

Арганізацыя пад такою назваю дзейнічала ў 1945-51 гадох у Пліскім раёне Полацкай вобласьці. Спачатку ёю кіраваў Пятро Шыпка. Дзесьці ў 1946-м годзе да Саюзу Барацьбы Супраць Камунізму (СБСК) далучылася падпольная група Георгія Бортніка. Бортнік быў сябрам СБМ, а ў 1944-м годзе, апынуўшыся ў Чэхіі, уступіў у падпольную Беларускую Незалежніцкую Партыю, служыў у беларускіх вайсковых аддзелах у Нямеччыне, закончыў падафіцэрскую школу. У сьнежні 1945-га году, як рэпатрыянт, Бортнік вярнуўся на Бацькаўшчыну, у Пліскі раён. Разам зь ім вярнуліся таксама сябры БНП Лялюш, Сташкевіч, Дубна і Сталяр. Неўзабаве яны стварылі падпольную групу ды навязалі кантакт з СБСК. У 1948-м годзе Шыпка быў забіты чэкістамі, і Ўладзімер Бортнік, які ўжо стаў праваслаўным сьвятаром, ачоліў арганізацыю.




Паводле Валахановіча, у СБСК ня было сваіх праграмных дакумэнтаў, а яе сябры кіраваліся інструкцыямі кіраўніцтва БНП, якія былі надрукаваныя ў пятым нумары "Бюлетэню БНП" ад сьнежня 1944-га году. Галоўным чынам арганізацыя займалася антысавецкаю агітацыяй сярод мясцовага насельніцтва. Праўдападобна, выдавала ўлёткі. У канцы 1950-га - пачатку 1951-га году СБСК быў ліквідаваны савецкаю дзяржбясьпекаю. У жніўні 1951-га году Ўладзімер Бортнік быў прыгавораны да расстрэлу, астатнія падпольшчыкі атрымалі вялікія тэрміны зьняволеньня. У 1991-м годзе ніхто з удзельнікаў Саюзу Барацьбы Супраць Камунізму рэабілітаваны ня быў.

### Партызанскі аддзел Раманчука

І.Валахановіч зьмяшчае ў кнізе матэрыялы пра дзейнасьць у 1947-49 гадох у Нясьвіжскім раёне партызанскага аддзелу Івана Раманчука. Раманчук нарадзіўся ў 1920-м годзе ў вёсцы Баяры на Нясьвіжчыне. Падчас нямецкае акупацыі працаваў настаўнікам, інструктарам Беларускай Народнай Самапомачы, дырэктарам Народнага дому ў Нясьвіжы. Працаваў Раманчук настаўнікам, дырэктарам школы ў вёсцы Высокая Ліпа пасьля вяртаньня бальшавікоў летам 1944-га году. Адчуўшы пільную ўвагу з боку НКВД, у верасьні 1944-га ён пераходзіць на нелягальнае становішча. У 1946-м годзе ён пачынае стварэньне падпольнае арганізацыі "Саюз Змаганьня за Незалежнасьць Беларусі", а ў 1947-м годзе арганізоўвае невялікую партызанскую групу зь вялікаю сеткаю сувязных. Паплечнікам Раманчука стаў ягоны аднагодак Мікола Дэмух, былы франтавік, які на нелегальным становішчы знаходзіўся з восені 1946-га году. У аддзеле апынуўся і Браніслаў Бука, былы жаўнер БКА і Войска Польскага, які ў пачатку 1948-га году уцёк у лес ад арышту.

Валахановіч прыводзіць некалькі прыкладаў акцыяў аддзелу Раманчука. У верасьні 1947-га году быў забіты супрацоўнік Нясьвіжскага райаддзелу МГБ Вегонскі й "істрабок" Шапавал, у студзені 1948-га - чэкіст Гейсік і г.д. У траўні 1949-га году аддзел Раманчука быў разьбіты чэкістамі, а яго ўдзельнікі арыштаваныя (Раманчука ўзялі параненым). Адбыліся арышты й удзельнікаў Саюзу Змаганьня за Незалежнасьць Беларусі. Ад расстрэлу Івана Раманчука выратаваў тагачасны мараторый на сьмяротную кару ў СССР - ён атрымаў 25 гадоў канцлягероў, якія ўсе адсядзеў. Па вяртаньні на Бацькаўшчыну жыў у Барысаве, стварыў сям'ю. Памёр у траўні 1987-га году.

### Няўлоўны Жыхар

На Пастаўшчыне і Глыбоччыне Аўген Жыхар - асоба легендарная. Пры падтрымцы мясцовага насельніцтва ён ваяваў з савецкаю ўладаю з 1946-га да 1955-га году. Паводле Валахановіча, Жыхар нарадзіўся ў 1925-м годзе у вёсцы Навасёлкі Мядзельскага раёну. Настаўнік па адукацыі, у 1944-м годзе ён стаў сябрам падпольнай БНП, увайшоў у склад дэсантнага батальёну "Дальвіц". У 1945-м годзе ў Нямеччыне быў мабілізаваны ў Чырвоную Армію, але хутка дэмабілізаваўся, вярнуўся ў Дунілавіцкі раён, працаваў настаўнікам у Верацеях. У 1946-м годзе яго няўдала спрабавалі арыштаваць, пасьля чаго Жыхар перайшоў на нелегальнае становішча. Спачатку ён быў партызанам у аддзеле Каралёнка, а пасьля сам узначаліў яго. Валахановіч прыводзіць факты забойстваў аддзелам Жыхара чэкістаў, міліцыянтаў, савецкіх актывістаў. Былі гэта пераважна людзі прыежджыя з Расеі: Федотов, Міхайлов, Ячменев, Шаров, Савін...

У пачатку студзеня 1955-га году Жыхар быў абкладзены чэкістамі ў вёсцы Карповічы Дунілавіцкага раёну. Падчас перастрэлкі ён загінуў. Сьведкі тых падзеяў кажуць, што забітага атамана чэкісты прывязалі да плоту, каб зрабіць фатаздымак. Таму ў ягонай справе гэты фотаздымак мусіць быць.

### Забыўся пра "Чорнага Ката"

І. Валахановіч у сваёй кніжцы нічога ня піша пра дзейнасьць партызанкі й падпольля "Чорнага Ката", нават ня згадвае пра гэтую арганізацыю. Гэта тым больш дзіўна, бо пра "Чорнага Ката" і Міхала Вітушку ўжо пісаў іншы, дапушчаны да архіваў КГБ, гісторык Сяргей Жумар. Валахановіч, аднак, вырашыў прамаўчаць пра "арыгінальна" абыйшоў "праблему" генэрала Вітушкі. Ён напісаў, што той загінуў у студзені 1945-га году ў баі з савецкімі войскамі ды спасылаўся на... кнігу Яўгена Сямашкі "Армія Краёва на Беларусі". Нібыта, у архіве КГБ на гэты конт няма дакумэнтаў. А калі няма Вітушкі, значыць ня варта пісаць і пра дзейнасьць ягоных партызанскіх аддзелаў...

Выглядае так, што КГБ, раскрываючы інфармацыю пра дзейнасьць некаторых беларускіх партызанскіх аддзелаў, вырашыў пакуль прыхаваць матэрыялы пра найбольш сур'ёзную і актыўную баявую арганізацыю Супраціву - "Чорны Кот". Ня згадваецца ў кнізе, што антысавецкая беларуская партызанка дзеяла ня толькі ў заходніх абласьцях БССР, але й на Бабруйшчыне, Гомельшчыне, Браншчыне, Смаленшчыне, Віленшчыне. Ні слова не гаворыцца пра беларускіх партызанаў, якія яшчэ з часоў нямецкае акупацыі дзеялі на заходнебеларускім Палесьсі (некаторыя зь іх прабіліся на Захад) і г. д.

Але, нягледзячы на ўсе гэтыя хібы, можна канстатаваць, што рана ці позна, КГБ змушаны будзе адчыніць для дасьледчыкаў усе свае архівы па пасьляваеннаму Супраціву, каб мы змаглі пабачыць поўную і маштабную карціну гэтага руху. Каб усе беларускія патрыёты, якія склалі свае галовы ў барацьбе за волю і незалежнасьць Беларусі, занялі сваё пачэснае месца ў нашай гісторыі.

**Сяргей ЁРШ**



***На здымку:** атаман Іван Раманчук у зьняволеньні, 1959 год. Фота з архіву сям'і Раманчукоў. Друкуецца ўпершыню.*

# ГАНАРОВАЕ СЯБРОЎСТВА ПІСЬМЕНЬНІКАЎ ЭМІГРАЦЫІ

Рада Саюзу пісьменьнікаў Беларусі зацьвердзіла палажэньне, паводле якога тыя літаратары, якія жывуць замяжою і ня могуць стала ўдзельнічаць у працы пісьменьніцкае арганізацыі, маюць права быць ейнымі ганаровымі замежнымі сябрамі. Першымі гэтым званьнем уганараваныя тры беларускія літаратары з ЗША й адзін з Канады.

Дзякуючы сужэнству Зоры й Вітаўта Кіпеляў Амэрыка ведае пра Беларусь. Літаратуразнаўчую і перакладніцкую працу супрацоўніцы Нью-Ёркскае публічнае бібліятэкі Зоры Кіпель цяжка пераацаніць. Як немагчыма пераацаніць унёсак літаральна ва ўсе сфэры беларусазнаўства стваральніка і кіраўніка Беларускага інстытуту навукі і мастацтва ў Нью-Ёрку, публіцыста і кнігавыдаўца Вітаўта Кіпеля. Навіну пра прыняцьцё ў ганаровыя сябры пісьменьніцкае грамады яны ўспрынялі з радасьцю. Вітаўт Кіпель з гэтае нагоды сказаў: "Мы працавалі ўсё жыцьцё зь Беларусьсю і для Беларусі, хоць жылі мы па-за Беларусьсю і праца наша была па-за Беларусьсю. І таму фармальная прыналежнасьць да арганізацыі, якая на Бацькаўшчыне, успрымаецца зь вялікай падзякай, зь вялікім энтузіязмам.

Паэт, публіцыст, навуковец Янка Запруднік таксама жыве ў Нью-Ёрку, але працуе для Беларусі. На радзіме творы й навуковыя працы Янкі Запрудніка сталі вядомыя толькі за часы незалежнасьці. Тады ў адным зь недзяржаўных выдавецтваў была выдадзеная ягоная кніга "Беларусь на гістарычных скрыжаваньнях". Апошняя кніга Запрудніка - "Дванаццатка", прысьвечаная сябрам эміграцыйнае маладосьці, патрапіла ў сьпіс мінулагодніх бэстсэлераў паводле апытаньня чытачоў, якое праводзіла газэта "Наша Ніва".

Патрапляў у сьпіс бэстсэлераў і раман канадыйскага беларускага пісьменьніка Кастуся Акулы "Змагарныя дарогі", перавыдадзены ў 1994-м годзе ў Беларусі выдавецтвам "Мастацкая літаратура". Спадар Акула спадзяецца, што і астатнія ягоныя кнігі будуць выдадзеныя на Радзіме. Рашэньне Рады Саюзу пісьменьнікаў ён успрыняў як спробу злучыць усіх беларускіх літаратараў у супольнай працы для хутчэйшага ўсталяваньня ў Беларусі дэмакратычных каштоўнасьцяў. "У Беларусі робяцца намаганьні, каб нашых творчых людзей па цэлым сьвеце спалучыць, каб працавалі для ўсталяваньня гуманітарных правоў чалавека...". - сказаў ён.

Прапановы прыняць замежных беларускіх літаратараў у пісьменьніцкі саюз, выказвалася яшчэ ў сярэдзіне 1990-х, але тады яны не знайшлі падтрымкі большыні сяброў Рады.

***Паводле Радыё Свабода***

# Міхась ВІЦЭНЧЫК
## (02.11.1921 - 07.01.2003)



Міхась Віцэнчык нарадзіўся ў вёсцы Асмолавічы Нясьвіжскага павету.

Падчас 2-й Сусьветнай вайны служыў у Беларускай Самаахове, а ў 1944-45-м гадох у польскім войску на італійскім фроньце. У 1946-м годзе прыехаў у Шкотыю і ў 1947-м годзе ўступіў у Згуртаваньне Беларусаў Вялікай Брытаніі (ЗБВБ). Пазьней пераехаў у Манчэстэр, дзе арганізаваўся аддзел ЗБВБ, а Міхася абралі скарбнікам аддзелу, і дзе ён спрычыніўся да адкрыцьця Беларускага Грамадзкага Клюбу, у які ўклаў шмат працы як добры гаспадар і барман.

У 1969-м годзе Міхась пераехаў у Брадфорд і там працаваў у Беларускім Грамадзкім Клюбе "Сакавік". На працягу 13 гадоў, пачынаючы з 1957-га году, Міхась быў сябрам Рады БНР.

Міхась Віцэнчык быў выдатным супрацоўнікам і вернікам Беларускай Праваслаўнай Аўтакефальнай Царквы. За сваю працу і ўклад на карысьць БАПЦ быў узнагароджаны Сьв. памяці Мітрапалітам Андрэем Царкоўнаю Граматаю.

Беларускае грамадзкае і рэлігійнае жыцьцё будзе адчуваць вялікую страту ў асобе Міхася Віцэнчыка. Пахаваны ён на магільніку ў горадзе Брадфордзе, акругі Ёркшыр, дзе пражываў апошнім часам.

Дык няхай-жа будзе пухам ангельская зямелька, каторая яго прыняла.

***Хведар КАЖАНЕВІЧ***

# БЕЛАРУСКІ ІНСТЫТУТ НАВУКІ й МАСТАЦТВА
## ЗВАРОТ ДА ГРАМАДЗТВА

**Высокашаноўнае спадарства!**

*Гэтым Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва даводзіць да ведама,* што рэдакцыйная праца над беларуска-ангельскім слоўнікам знаходзіцца ў апошняй стадыі пераглёду/карэкты.

Слоўнік налічвае каля 60 000 лексычных адзінак (каля 1000 старонак), што робіць яго вызначальным у беларускім слоўніцтве. Укладальніца слоўнікавае картатэкі спадарыня Валянтына Пашкевіч, *а таксама рэдакцыйная камісыя* БІНіМу ў складзе Зоры Кіпель, Янкі Запрудніка, Міхася Бахара, Томаса Бэрда, Вітаўта Кіпеля, Аллы Орса-Романо, пастыра Юры Рапэцкага, Алекса Сільвановіча, Васіля Русака (ужо нябожчыка), Юры Станкевіча, Зьміцера Саўкі, Джона Станлей, Антона Шукелойця ды Сяргея Шупы з прыемнасьцю і гонарам гатовыя перадаць вынік блізу дваццацігадовае працы ў карыстаньне грамадзтву.

Напярэдадзе цяпер - друк слоўніка. Зробленыя запытаньні ў некалькі выдавецтваў у ЗША, Беластоку і ў Беларусі аб коштах друку. Паколькі мяркуецца вялікі тыраж слоўніка, каб шырока распаўсюдзіць яго ў Беларусі, відавочна, будуць і вялікія выдаткі на друк. Наклад плянуецца ў некалькі тысячаў, а друк, паводле пачатковых ашацункаў, будзе парадку некалькі дзесяткаў тысячаў даляраў. Выданьне слоўніка мяркуецца ажыцьцёвіць коштам падпіскі й ахвяраваньняў беларускай грамадзкасьці ды дапамогі беларускіх арганізацыяў.

Дадзены ліст-зварот да грамадзтва аб фінансавай дапамозе на друк-выданьне слоўніка. Відавочна, што ўсім зразумелая важнасьць гэтага выданьня ды інтэлектуальная трагедыя Бацькаўшчыны, якая да гэтага часу ня мае гэтак патрэбных вялікіх замежна-беларускіх слоўнікаў.

Да рэчы, як аднадушна ўважаюць ініцыятары й арганізатары гэтага выданьня, сьпіс спонсараў і ахвярадаўцаў, як асобаў, гэтак і арганізацыяў-ахвяравальнікаў панад 250 даляраў будзе выдрукаваны ў адпаведным месцы ў слоўніку.

Дык у чародны раз Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва спадзяецца на грамадзкую шчодрасьць. Прысылайце, калі ласка, Вашыя ахвяраваньні на друк ангельска-беларускага слоўніка.

Ахвяраваньні на выдавецкі фонд Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва:

**Вольга Качан у памяць мужа Аркадзя Качана 15 000 дал.**
**Міхась Лужынскі 1 000 дал.**

***Управа БІНіМу***

Ахвяраваньні на выданьне слоўніка дасылайце на адрас:

***Belarusan Institute of Arts and Sciiences***
***1797 Buttonwood Ave***
***Toms River, NJ 08755 Attn: Vitaut Kipel***

# "ДАР САКАВІКА"
## ЗАКЛІК РАДЫ БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ

**Дарагія Суродзічы! Штогоду напярэдадні ўгодкаў абвешчаньня незалежнасьці БНР Актам 25 Сакавіка Рада БНР зьвяртаецца да беларускага грамадзтва з заклікам скласьці пасільную суму ў фонд "Дар Сакавіка". Ахвяраваньні ў фонд "Дар Сакавіка" даюць магчымасьць Радзе БНР праводзіць у жыцьцё ідэю незалежнасьці Беларусі ды абарону ейнае дзяржаўнасьці. Сёньня, як ніколі дасюль, справа абароны Бацькаўшчыны патрабуе ўсіх нашых намаганьняў. Калі ласка, вазьмеце ўдзел у гэтым высакародным змаганьні праз пасільнае ахвяраваньне ў фонд "Дар Сакавіка".**

**Прадстаўнікі фонду ў большых асяродках маюць падпісныя лісты. Просім зьвяртацца да іх. А калі хто ня зможа сустрэць такога прадстаўніка, просім пераслаць ахвяраваньне беспасярэдне скарбніку Рады БНР.**

Чэкі выпісвайце толькі на імя скарбніка: *Vitaly Kazan* і дасылайце на адрас:

***Vitaly Kazan***
***29 Pennington-Lawr. Rd.***
***Pennington, NJ 08534***

***РАДА БНР***

*Сп. **ЛЯВОН ЮРЭВІЧ**, шырака ведамы праз дзесяткі сваіх твораў-кнігаў як на эміграцыі гэтак і ў Беларусі, быў прыняты ў сябры Беларускага ПЭН-клюбу, міжнароднае пісьменьніцкае суполкі. ШЧЫРА ВІНШУЕМ!*

# АБ'ЯВА

**Аддзел Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ў Нью Ёрку ладзіць сьвяткаваньне 85-х УГОДКАЎ абвешчаньня незалежнасьці**

## БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ.

**Імпрэза пачнецца 16-га сакавіка 2003-га году а 2-й гадзіне папаўдні ў залі Украінскага Дому на Мангэтане па адрасу: *140 Second Ave, New York, NY***

**Кошт квіткоў $35 (уключае канцэрт і абед), сем'ям зь дзецьмі будзе зьніжка. Аплату дасылайце скарбніку на адрас: *Valeri Dvornik, 172 Millspring Rd., Manhasset, N.Y. 11030***

**Чэкі выпісвайце на *Belarusan American Association.***

**Інфармацыя па тэлефону: (516) 627-6491.**

***Газэта "БЕЛАРУС"* *бясплатна надрукуе кароткія аб'явы некамэрцыйнага характару, віншаваньні, запрашэньні, спачуваньні ды інш. Наконт разьмяшчэньня рэклямы кантактуйце рэдакцыю.***

**Шаноўныя чытачы!**
Прайшоў год, як нашая газэта аднавіла свой выхад. Разам з гэтым шмат у каго падыйшоў час працягнуць падпіску на наступны год. Калі ласка, дасылайце аплату цяпер, не адкладаючы на потым, каб не забыцца. Нам патрэбная Вашая падтрымка!

*Выказваем падзяку Л. Сазанавец, К. Акулу, Л. Юрэвічу, В. Трэмбіцкаму, В. Цярпіцкаму, якія даслалі ў рэдакцыю цікавыя матэрыялы.*


# БЕЛАРУС
*Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце*
**Выдае штомесячна: БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАЕ ЗАДЗІН-Е**
**Падпіска $30 на год.**
**Чэкі выпісвайце на BIELARUS**

# BIELARUS
*Belarusan Newspaper in the Free World*
***Published monthly by BELARUSAN AMERICAN ASS'N, Inc.***
***Subscription $30 yearly***
***Make checks payable to BIELARUS***

***Рэдагуе калегія.***
*Адказны рэдактар*
***Марат Клакоцкі***
*Падпіска*
***Сяргей Трыгубовіч***

*Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам ці ініцыяламі, могуць зьмяшчаць погляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.*

***Передрук дазваляецца толькі пры ўмове зазначэньня крыніцы.***



**Адрас для допісаў і кантактаў:**
BIELARUS
P.O. Box 3225
Farmingdale, NY 11735
**E-mail:**
hazetabielarus@att.net
**Сусьветнае сеціва:**
www.bielarus.org

***Адказнасьць за зьмест рэклямы нясе рэклямадаўца.***

Slavic Heritage Council of America, Inc.

# EUROPEAN FOLK FESTIVAL

**Наведайце канцэрт, у якім возьмуць удзел прадстаўнікі розных эўрапейскіх краінаў, і які адбудзецца 23 ЛЮТАГА 2003 году а 2:30 папаўдні ў *Fashion Institute of Technology, HAFT Auditorium* па адрасу: *7th Ave/27th Street, New York City.***

**Кошт квіткоў $20.**

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД "БЕЛАРУСА" АХВЯРАВАЛІ:

| | | | |
|---|---|---|---|
| У. Ракуць | 100 | Л. Корчык | 30 |
| М. Смаршчок | 100 | Т. Красоўская | 30 |
| Л. Кавалёў | 50 | М. Латушкін | 30 |
| В. Махнач | 50 | А. Ніколенка | 30 |
| А. Шукелойць | 40 | Я. Сажыч | 30 |
| К. Акула | 30 | А. Сальва | 30 |
| Ю. Андрусышын | 30 | В. Фэльдштэйн | 30 |
| М. Вашкевіч | 30 | Х. Кажаневіч брыт. ф. | 20 |
| Я. Каваленка | 30 | А. Стральцова | 20 |
| В. Кажан | 30 | | |

**Усім шчыры дзякуй!**